Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

# Сялянская праўда

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 грошы.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 32. Вільня, Пятніца, 12-га сьнежня 1924 г. Год I.

## Палітычныя пэрспэктывы.

З вялікай зацікаўленасьцяй чакалі мы вынікаў выбараў у нямецкі парлямант, якія адбыліся ў гэту нядзелю. Ад вынікаў гэтых павінен быў залежаць, паміж іншым—і адказ на пытаньне: якой дарогай пойдзе Нямеччына у сваей заграні́чнай палітыцы, датыкаючай перад усім суседнюю Польшчу, заняўшую вялікія абшары колішняе Нямецкае імпэрыі?

Дзьве дарогі мае перад сабой Нямеччына. Адна—гэта дарога вострай барацьбы за сваю дзяржаўную цэннасьць *ужо сягодня*, карыстаючыся дзеля гэтага настроямі насяленьня, яшчэ не забыўшагася аб крыўдах перамоэжцаў. Перамога на выбарах крайніх груп: нацыяналістаў і камуністаў—бязумоўна, магла-бы давясьці да выбуху новае вайны ў найбліжэйшым часе.

Другая дарога—гэта дарога пакоры пераможцам на сягоньня, але з тым, каб, выкарыстаўшы ўсе магчымасьці дзеля эканамічнае адбудовы паваенная руіны, хоць і зляжыўшы дзеля гэтага цяжкія ахвяры, тым пэўней дабіцца свайго—*заўтра*. Гэтай дарогай ішлі ўвесь час цэнтравыя партыі і сацыялдэмакраты.

Незалежна ад таго, якая створыцца панучая большасьць у нямецкім парлямэнце ў новым яго складзе, можна ўжо сяньня сказаць з поўным пераканаўньнем, што Нямеччына абабрала дзеля сваей заграні́чнай палітыкі гэную *другую* дарогу. На агульную лічбу выбраных дэпутатаў (489), права-нацыяналістычнае крыло мае 124 мандаты, цэнтравыя партыі—152, сацыял-дэмакраты — 131, камуністы—45, розныя дробныя групы (права-цэнтравыя)—38. Даволі кінуць вокам на гэтыя цыфры, каб зразу пераканацца ў немагчымасьці стварыць большасьць бяз цэнтру ці с.-д. Можна прадбачыць толькі стварэньне або „цэнтра-праву“, дзе цэнтравыя партыі будуць пераважаць над нацыяналістамі і самі надаваць кірунак палітыцы Нямеччыны, або—„цэнтралеву“, дзе абедзьве групы партыяў зыходзяцца на галоўных пунктах замежнае палітыкі ў духу паступовага, крок за крокам, адваёўваньня для Нямеччыны належнага ей месца.

Ацэніваючы вынікі нямецкіх выбараў, орган польскіх эндэкаў „Gaz. Warsz.“ зусім слушна кажа, што кіраўніцтва Нямецкай рэспублікай астанецца ў руках людзей, якія пастанавілі „паказваць лагоднае аблічча, але на дзеле правадзіць палітыку рэваншу (адплаты за палажэньне!) на мірным шляху, доўгім, вымагаючым частковых заваяваньняў, але пэўней дасягаючым мэты“.

Як-жа гэта адаб'ецца на суседніх з Нямеччынай дзяржавах, а перад усім на тэй дзяржаве, з якой сяньня — воляй „волатаў гэтага сьвету“ — зьвязана Заходняя Беларусь,—на Польшчы?

Польшча ў найбліжэйшыя гады можа спаць спакойна, маючы пэўнасьць, што Нямеччына так хутка не патрывожыць ані „гданскагу калідору“, ані Горнага Сьлёнску—дарогай аружнага выступленьня. Барацьба за гэтыя землі будзе вясьціся пакуль-што, выключна, на дыпламатычнай дарозе — перад форумам вялікіх дзяржаў.

Значыць, Польшча, як піша „Gaz. Warsz.“, мае трохі часу дзеля „завядзеньня ўнутранага ладу“ ў сваіх межах і „арганізацыі сіл“, калі толькі за гэты час ня ўзьнімецца якая пагроза на процілежных рубяжох—на Усходзе...

Як-жа Польшча прыступіць да выкарыстаньня гэтага „агранічанага часу“, у якім кірунку павядзе „санацыю“ сваіх унутраных адносінаў — сацыяльных і нацыянальных? — Вось пытаньне, якое датычыць беспасярэдна і нас, беларусаў, якія жывуць пад Польшчай.

Судзячы паводле настрояў польскіх партыяў (напр. зьезду „Пястоўцаў“) і польскае прэсы, судзячы паводле такіх праяваў, як публічныя выступленьні польскіх манархістаў (—новых Невядомскіх!) проці прэзыдэнта рэспублікі,—нельга спадзявацца, каб Польшча здалела пайсьці шляхам дзяржаўнага розуму. Хутчэй за ўсё пераважыць хворае нацыянальнае пачуцьцё і скурныя інтарэсы польскае буржуазіі, якая дзяржаўны гмах Польшчы хоча абаперці на паняволеньні працоўных масаў насяленьня і ўціску „нацыянальных меньшасьцяў“.

Гэтак тая чорная паласа, якую мы цяпер перажываем, можа зацягнуцца йшчэ надоўга. „Маючы час“, польскі нацыяналізм будзе паступова, крок за крокам, ламаць і нішчыць усё тое, чым жыве, чым бароніцца ад загляды наш народ.

З гэтым мы павінны вельмі паважна лічыцца. І сяньня больш, чым калі, нам патрэбна крэпкая арганізацыя *нашых* сіл, каб даць адпор чужым сілам. Мы больш, чым калі, павінны бараніць здабытыя доўгай барацьбой культурныя пазіцыі, павінны іх умацоўваць і пашыраць, зварачаючы асаблівую ўвагу на стварэньне моцных падставаў і дзеля нашага эканамічнага быту.

Гэта дыктуе нам наш нацыянальны розум і пэрспэктыва доўгага чаканьня на „лепшыя часы“. І мы верым, што беларускі народ, які перетрываў сотні гадоў паднявольнага і безгалосага жыцьця пад старой Польшчай і царскай Масквой, перетрывае і цяперашнія ліхія часы—тым лягчэй, што ён ужо збудзіўся, усьведаміўся, пачаў сам будаваць сваю будучыну і голасна загаманіў на ўвесь сьвет.

## Нашы самаўрады.

24 лістапада с. г. мне давялося быць на паседжаньні баранавіцкага павятовага сойміку.

Тут перш за ўсё зварачае на сябе ўвагу ненармальная пастаноўка справы: імкненьне затушоўваць запраўдныя патрэбы народу і адсоўваць сяброў сойміку—сялян ад угляданьня ў запраўднае палажэньне і балячкі павету.

Некалькі паноў, якія стаялі на чале гэтае няздольнае да жыцьця ўстановы, адно толькі выпаўняюць загады польскага ўраду, зусім ня лічучыся ані з народнымі патрэбамі, ані з аплатнымі сіламі сялянства.

Паседжаньне сойміку, на якім разглядаўся і зацьвярджаўся бюджэт на 1925 год, збалянсаваны ў 466, 984 злот. 68 гр., з дэфіцытам у 128,848 зл. 97 гр.,—мела на парадку дня дзесяць спраў і аднак, яно заняло часу толькі 5 гадзін. Гэта зусім ня значыць, што ўсё йшло гладка і згодна: прысутныя сябры сойміку, зусім незнаёмыя з падаванымі на паседжаньні матар'яламі, пераважна ўсё моўчкі прыймалі, дзякуючы асабліваму спосабу галасаваньня, заведзенаму старшынёй. Ён проста пытаўся: „хто проці, падымеце руку!“, і большасьць ня рыпалася, баючыся вынікаў сваей сьмеласьці . А былі вельмі „пікантныя“ мамэнты: гэтак ,сябры „wydziału powiatowego“ (ўправы) якія павінны былі прыймаць учасьце ў распрацоўцы бюджэту, выступалі проці некаторых пазіцыяў з пратэстамі, заяўляючы, што гэтыя пазіцыі бюджэту не праходзілі праз іх рукі і зусім не зацьверджаны адпаведнымі камісіямі! Гэтыя пратэсты і дамаганьні, каб такія асыгноўкі былі прыняты толькі ўмоўна, вельмі „дражнілі“ пана старшыню і выклікалі нейкія дзіцячыя тлумачэньні кіраўніка сойміку...

Гожа адзначыць, што парадак дня пры адкрыцьці паседжаньня ня быў абвешчаны, ані выпрацаваны ці зацьверджаны сходам, а проста быў раздадзены некаторым з сяброў. Увесь друкаваны матар'ял, як: бюджэт, аб'ясьненьне да яго, пратаколы паседжаньняў „wydziału“, пляны далейшае дзейнасьці сойміку,—усё гэтае, замест разаслаць сябром загадзя дзеля знаёмства з іх зьместам, раздавалася толькі на самым паседжаньні—„дзеля формы“, бо-ж, ведама, ніхто тут запраўды ня мог з імі пазнаёміцца!

Толькі пратэст аднаго з сяброў сойміку проці спосабу галасаваньня (ня „хто за?“, а „хто проці?“) нарушыў маўклівасьць і пакорнасьць сходу.

Галоўны пункт: зацьверджаньне бюджэту на 1925 год, у якім ніхто з прысутных не разьбіраўся, прайшоў „гладка“. Крыху спрэчак выклікаў аднак-жа § 2—аб падатках на соймік: дзеля пакрыцьця часьці дэфіцыту ён заводзіў 50 працэнтны дадатак да прымусовае страхоўкі на карысьць сойміку. Гэта выклікала энэргічны і справядлівы пратэст: прысутныя заявілі, што даволі ўжо і так усялякіх падаткаў, якія не пад сілу народу, а на гэты, як на вельмі непапулярны, народ ня згодзіцца,—тым балей, што страхоўка пераважна назначана несправядліва. Вось, гэткая падбаўка 50% да страхоўкі перапоўніць чашу цярплівасьці народу: гэта-ж выходзіла, што 90% усяе сумы пакрылі-бы сяляне, бо паны на вялізарных абшарах зямлі маюць зусім ня шмат будынкаў, раўнуючы да сялян, і плацяць страхоўкі вельмі мала.

Дзякуючы гэтым пратэстам, § 2 быў адкінуты. Патрэбныя на пакрыцьце дэфіцыту грошы пастаноўлена спагнаць з народу якім-колечы больш спрытным спосабам.

Ажыўленьне выклікаў і самы апошні пункт павесткі: „wnioski i interpelacje“ (прапазіцыі і запытаньні). Большасьць прысутных выступалі проці церазмернага абцяжэньня бюджэту сойміка выдаткамі на ўтрыманьне паліцыі, на што йдзе цэлая траціна бюджэту! Прадстаўнікі магістрату места Баранавіч пратэставалі проці таго, што большая часьць гэтага выдатку ўзложана на места, а не на павет, хаця па-за местам жыве 90% насяленьня павету. Але ўсе гэтыя нараканьні рабілі толькі ўражаньне, што людзі, „сьцяўшы галаву, плачуць па валасох“. Бо-ж, запраўды, калі праходзіў бюджэт, дык, не разьбіраючыся у ім і дзякуючы асабліваму спосабу галасаваньня, усе моўчкі згаджаліся на „сьцяцьце галавы“...

Наагул, сябры сойміку, няздольныя судзіць аб паважных справах, сваімі канцавымі выступленьнямі толькі падцьвярдзілі гэную сваю няздольнасьць да паважнае працы: яны „ўмелі“ гаварыць аб часе адчыняньня і зачыняньня крамаў у месьце і мястэчках, хаця гэтая справа ўжо беспаваротна вырашана міністэрствам,—дый аб падобных драбніцах. Так, адзін з сяброў сойміку хваліў свой паліцэйскі пастарунак, які выявў канакрадзтва,—і гэтае выступленьне крыху развесяліла сход.

Сябра сойміку, Галабурда, расказаў, што ў яго Дарэўскай гміне школьны інспэктар палажыў штрафы на 9 дзяцей за тое, што ня ходзяць у школу. Справа ў тым, што паміж сялянамі вёскі Макееўшчына, дзе была школа, узьнялася спорка з сялянамі в. Гарбачы аб тое, дзе павінна быць школа. Кожная вёска хацела мець яе ў сябе. Тады школьны інспэктар зрабіў „салямонавы“ суд: ні табе, ні табе,—а перанёс школу ў трэцюю „нэйтральную“ вёску. Але туды дзецям хадзіць далёка, бацькі ня хочуць пускаць,—вось, інспэктар і штрафуе цяпер і макееўцаў, і гарбачоўцаў!

У часе гутаркі аб школе выясьнілася, што ў павеце істнуе афіцыяльна 5 школ, для якіх наняты памяшчэньні і плоціцца арэнда, толькі не хватае ў іх... вучыцялёў! А ў в. Ліхасельцах, Чарэмхаўскае гміны, гэтак вядзецца ўжо ажно чатыры гады...

Соймік пастанавіў пабудаваць павятовую бальніцу ў Баранавічах на што напачатак асыгнована 30.000 злот., а такжа злучыць тэлефонамі ўсе гміны і двары з Баранавічамі. Старшыня сой-

